Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана 25 гр.

№ 8 (10) Вільня, 20 Сьнежня 1934 г. Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы.

Перад выхадам газэты мы даведаліся, што памёр па 6 тыднёвай хваробе ў Літоўскай клініцы ў Вільні дня 18.XII. 1934 г. а гадз. 0.30 мін.

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

НАШ СЯБРА

## АЛЬБІН СТЭПОВІЧ

З прычын тэхнічных і з болі па страце найбліжэйшага таварыша ня можам пра гэта пісаць і адкладаем да наступнага нумару.

# Чарговыя заданьні

## Беларускага Нацыянал-Сацыялістычнага Актыву.

Уплывы нацыянал-сацыялістычнай ідэолёгіі сярод беларускага грамадзянства значна пашырыліся, доказам чаго зьяўляецца ўсё большае зацікаўленьне «Новым Шляхам».

Гэтакая акалічнасьць змушае нас падкрэсьліць рад конкрэтных заданьняў, каторыя павінны быць вырашаны нашымі моцнымі і перакананымі прыхільнікамі.

Перадусім, цяпер-жа, не адкладаючы гэтага да часу афармленьня Нацыянал-Сацыялістычнай партыі — увесь наш актыў мусіць згуртавацца каля свайго часапісу. Кожны нацыянал-сацыяліст і нават спачуваючы нам павінен лічыць сваім грамадзкім абавязкам падпісацца на „Новы Шлях“. Найбольш пажаданаю формаю падпіскі была-б колектыўная, бяручы пад увагу ня толькі матэрыяльны бок справы, але і агульна-грамадзкі.

Апрача таго вельмі было-б пажаданым, каб нашы сябры абгаварвалі паміж сабою ўсе праграмовыя артыкулы і прысылалі ў рэдакцыю свае ўвагі. Гэта пры-

чынілася-б да наладжаньня жывой сувязі паміж Рэдакцыйнаю Калегіяю і спачуваючым нам грамадзянствам.

Ініцыятыўная група і рэдакцыя нашага часапісу, на вялікі жаль, ня маюць пакуль што грашовых сродкаў, каб наладзіць на правінцыі даклады і лекцыі, у якіх больш падробна далося-б разьвіць асновы няцыянал-сацыялізму.

Дзеля гэтай прычыны прыходзіцца агранічыцца як прапагандовым сродкам—выключна друкаваным словам.

А каб і гэты адзіны наш сродак дапяў мэты, патрэбна пашырыць фармат „Новага Шляху" і выдаваць яго хаця-бы 2 разы ў месяц, што, у сваю чаргу, злучана з павялічэньнем грашовых коштаў.

Вось чаму мы кладзём такі вялікі націск на неабходнасьць масавай падпіскі на наш орган.

Ніхто нам, апрача беларускага грамадзянства, не паможа і ні чыёй ласкі мы не патрабуем. Цьвёрда верым, што абыйдземся сваімі ўласнымі сіламі, як абыходзіліся і да гэтага часу.

Беларускае грамадзянства нам спачуваючае, жадаючае пасьпеху распачатай намі справы, у якую яно верыць, само парупіцца пра яе арганізацыйны і матэрыяльны бок.

Той факт, што мы ня маем яшчэ сваей афіцыяльнай партыі не даводзіць, каб кожны нацыянал-сацыяліст агранічваўся толькі чытаньнем нашага часапісу. Гэтага мала:—трэба дзеяць і рухацца.

Трэба пераконваць іншых у правільнасьці сваіх паглядаў і старацца вуснаю прапагандаю пашыраць нац.-сацыялістычныя ўплывы.

Неабходна будзіць у людзях пачуцьцё нацыянальнай сьведамасьці і нацыянальнага гонару і даводзіць, што Беларускі Народ мусіць мець лепшую будучыню, і што нацыянальнае яго адраджэньне і сацыяльна-эканамічнае вызваленьне з тае кабалы, у якую ён папаў, можа зьдзейсьніцца толькі праз змаганьне.

Датычна іншых беларускіх партыяў трэба старацца, перадусім, пераконваць камуністаў, даводзючы, што яны стаяць на блудным шляху, які да дабра ня прывядзе, як ня прывёў ён працоўныя масы ў Саветах. З незалежніцкімі беларускімі партыямі трэба тварыць адзіны нацыянальны фронт, шукаючы ў іх не таго, што нас дзеліць, а таго, што нас лучыць.

А з імі нас лучаць агульныя нацыянальныя інтарэсы і дабро Беларускага Народу, да чаго гэтыя партыі таксама імкнуцца, як і мы.

Ня можам мы лучыцца толькі са здэцыдаванымі камуністамі інтэрнацыяналістамі і перакупленымі палёнофіламі. Як тых, так і другіх мы ўважаем за здраднікаў Беларускага Народу і ні на якія кампрамісы пайсьці з імі ня можам.

Словам, кожны нац.-сацыяліст ужо цяпер, не чакаючы стварэньня партыйных арганізацыяў, павінен выяўляць максімальную энэргію ў гэтым прапагандовым кірунку.

Супольныя пераконаньні, як ведама, аб'еднываюць людзей і зьліжаюць, творачы больш цеснае сяброўства.

Тое самае павінна быць і ў асяродзьдзі беларускіх нац.-сацыялістаў.

Мы будзем разьвіваць узаемапомач сярод нашых прыхільнікаў, бо гэта зьвязвае людзей маральна і робіць іх больш блізкімі.

Усё дрэннае, маральна папсутае і прадажнае павінна быць выкінена з нашых радоў. Толькі людзі чэсныя і ідэёвыя могуць быць сябрамі Нац.-Сацыялістычнай партыі.

Гэтакія сябрыны, аснованыя на грунпе таварыскай узаемапомачы і грамадзкай салідарнасьці, будуць пробнаю школаю, праз каторую павінен прайсьці кожны кандыдат Нацыянал-Сацыялістычнай партыі.

На маральныя кваліфікацыі гэтых кандыдатаў неабходна зьвяртаць найвялікшую ўвагу, памятаючы якія вялікія магчымасьці ў нашыя часы існуюць для дэмаралізацыі беларускага грамадзянства.

Маральнае і грамадзкае ўдасканаленьне адзінкі павінна ставіцца намі як адно з найгалаўнейшых заданьняў пры падгатоўцы нац.-сацыялістычных кадраў.

Той, хто нам спачувае—безадкладна приступае да дзеяньня, гуртуючыся каля „Новага Шляху" і яго падтрымліваючы; творыць сябрыны, маючыя характар узгадаваўча-грамадзкі і вядзе нацыянал-сацыялістычную прапаганду—гэта будзе першы этап, каторы мусіць прайсьці кожны, жадаючы лічыць сябе нацыянал-сацыялістам.

Так творацца моцныя арганізацыі і ў гэтакі спосаб, а ня ў іншы, будзе створана і Б.Н.С.П.

# Што рабіць?

Цяжкое матэрыяльнае становішча, у якім апынулася ў межах Польшчы беларуская інтэлігенцыя, пхае яе да нацыянальнага рэнэгацтва.

Толькі здрадаю Беларускага Народу многія нясумленныя адзінкі спадзяюцца папра віць абставіны свайго асабістага жыцьця. Кідаюць усё, выракаючыся ня толькі нацыянальнага „я“, але кладуць у ахвяру пачуцьцё асабістага гонару і робяць гэта ў тых мэтах, каб зачапіцца за некую сумліўную пасаду і „выйсьці ў людзі“.

З сумам трэба прызнаць, што, запраўды, становішча нашай інтэлігенцыі, асабліва моладзі — проста жудаснае.

Да „надпрадукцыі“ інтэлігенцыі, што наглядаецца ў сучасных буржуазных дзяржавах, прыходзіцца дадаць яшчэ спэцыфічныя абставіны, у якіх апынуліся беларусы, засуджаныя на заўсёднае беспрацоўе.

Бяз сумліву, гэтакі стан рэчаў вельмі цяжкі і ня кожны мае столькі маральных сілаў, каб яго вытрымаць.

Вялікая крыўда творыцца Беларускаму Народу, асабліва моладзі, якой трэба пакутаваць за грахі сваіх спаўшых нацыянальна бацькоў, ня змогшых здабыць сабе незалежнасьці сваей бацькаўшчыны тады, як здабылі яе нават народы слабейшыя ад Беларускага.

Але тое, што прайшло — ужо ня вернеш... Трэба лічыцца з тым, што маем.

Як-бы цяжка ні жылося, ня можна шукаць палёгкі ў нацыянальным рэнэгацтве, бо яно здольна „ўратаваць“ толькі адзінкі, найбольш слабавольныя і безвартасныя.

Агул беларускай беспрацоўнай інтэлігенцыі не розлічае і, каб нават хацеў, ня можа разьлічаць на гэтакі сродак, бо адпаведнымі дзейнікамі бяруцца пад увагу ня толькі этнічныя прыкметы, але і „рэгіональныя“.

Гэтак, напрыклад, мы часта спатыкаем у віленскай польскай прэсе нараканьні на прышлы, пераважна галіцыйскі элемэнт, каторы выціскае адусюль тутэйшых палякоў, не залічаючы іх да „rdzennych“.

Дзе-ж пры гэткіх абставінах беларускаму інтэлігенту спадзявацца на нейкае здабыцьцё сабе правоў на працу ў дзяржаўных установах Зах. Беларусі...

Гэтакай надзеі ня можа быць, дзякуючы палітычнай і грамадзкай структуры сучасных капіталістычных дзяржаў, (аб якой многія з оптымістаў запамінаюць), дзе на становішчы эксплёатаваных апынуліся цэлыя народы, ня змогшыя з тае, ці іншае прычыны здабыць сабе палітычнае незалежнасьці.

На нашу думку, выхад для маладой беларускай інтэлігенцыі можа быць толькі адзін—гэта шукаць магчымасьцяў да прытарнаваньня сваей агульнай і фаховай веды сярод свайго народу. Трэба тут, а не ў чужым для нас асяродзьдзі, тварыць варштаты працы і не выракацца Беларускага Народу, як гэта робяць некаторыя, а наадварот, падышоўшы да яго бліжэй, старацца ўсьведамляць народныя масы і іх арганізоўваць.

Працу знайсьці можна, толькі трэба адкінуць стары інтэлігенцкі забабон, быццам адзіным заняткам для чалавека адукаванага ёсьць урадовая пасада.

Трэба тварыць коопэратывы, а калі гэта немагчыма,—прыступаць да гандлю прыватнага, пачынаючы хаця-бы ад прадажы найдрабнейшых рэчаў. Людзі, маючыя сельска-гаспадарскую веду мусяць дасканаліць гаспадарку, творачы сельска - гаспадарскія сябрыны. Ёсьць прыклады на Зах. Беларусі, калі паасобныя энэргічныя і інтэлігентныя адзінкі асягнулі значны матэрыяльны посьпех наладзіўшы пчалярства.

Ня мейсца тут разводзіць пра практычныя крокі, якія павінен распачаць кожны беларускі інтэлігент пазбаўлены працы.

Хочам зацеміць толькі адно: нацыянальнае рэнэгацтва, або вырачэньне беларускай справы накарміць усіх ня зможа.

Яно можа даць хлеб (і то не надоўга) толькі выразным здраднікам Беларускага Народу, але рэч зусім немагчымая, каб гэтакая „заслуга“ прычынілася да паляпшэньня лёсу больш значнай часткі інтэлігентных людзей.

Неабходнасьць працы ў нацыянальным кірунку вымагаецца ўсімі абставінамі нашага жыцьця і як-бы хто колечы не хацеў выкруціцца ад свайго грамадзкага абавязку ён мусіць прыйсьці да пераканаьня, што гэта немагчыма.

Усякі думаючы чалавек бачыць, што толькі гуртуючыся з сабе падобнымі беларусамі, што знаходзяцца ў такіх самых абставінах—куды лягчэй можна адшукаць ратунак, якога пры іншых умовах знайсьці немагчыма.

Трэба прызнаць, што ў гэтым кірунку ў нас, прынамсь арганізаваным спосабам, нічога ня зроблена.

Ня чуваць таксама, каб беларуская беспрацоўная інтэлігенцыя забірала голас у гэтай так паважнай для нас справе.

Усё неяк робіцца паціхеньку і кожны стараецца ўціснуцца на ўрадовую пасаду, трымаючыся за хвалды якога-небудзь „ўплывовэго“ панка.

Так жыць далей немагчыма. Мусім, напасьледак, усьведаміць сабе адну элемэнтарную праўду, што ніхто нам не паможа, апрача нас самых.

А для таго, каб мы былі ў стане сабе памагчы — трэба адпаведна арганізавацца і дзеяць плянова, ні на мінуту не запамінаючы пра свае нацыянальныя заданьні.

Ф. Акінчыц.

*З нагоды надыходзячага новага 1935 году ўсім беларусам жадаем вытрываласьці ў цьвёрдым і рашучым змаганьні за вызваленьне Беларускага працоўн. Народу.*

# Ці здольныя мы да змаганьня за лепшую будучыню?

Цяжкія палітычныя і грамадзкія абставіны, у якіх апынулася беларускае грамадзкае жыцьцё, нутраная гангрэна яго раз'ядаючая і цэлы рад іншых няспрыяючых нам акалічнасьцяў насоўвае многім пэсымістычныя думкі адносна далейшага гістарычнага лёсу Беларускага Народу. Запраўды, тое, што мы бачым як на тым боку рыскай мяжы, так і на гэтым—вельмі жудасна.

Там—нікім ня ўстрымліваны тэрор, фізычнае і маральнае зьнішчэньне народу і ўстанаўленьне некага агіднага, чыста фараонаўскага рэжыму, дзе людзі, трацючы ўсе дадатнія якасьці сваей натуры, ператвараюцца ў стада пакорных і тупых рабоў.

Усё лепшае, здольнае да поступу і вытварэньня маральных і інтэлектуальных вартасьцяў засуджана на пагібель, каб ачысьціць мейсца для новай „культуры", гвалтам накіненай народу варожымі сіламі.

Тут крыху іншае.

Засталіся старыя хвормы жыцьця. Але яно тут сьціравана да таго, каб павялічваць кадры нясьведамых нацыянальных рэнэгатаў.

Полёнізацыя нашага краю расцэньваецца Беларускім Народам як нацыянальнае няшчасьце і будучы павярхоўнаю (бо іншаю яна быць ня можа) і разьлічанаю на вонкавы эфэкт, перарадзіць душы народнай ня ёсьць здольная.

Зьменяцца часы, зьменяцца абставіны і ад яе застануцца адны толькі цяжкія ўспаміны...

Народ Беларускі моцны і ў сваім гістарычным жыцьці, дзе сьветлых мінутаў амаль ня было, прывык да ўсялякіх няшчасьцяў, захаваўшы да нашых дзён свае нацыянальныя скарбы — мову, звычаі і свой бязхітрасны, тыпова славянскі характар.

Такому народу нічога ня страшна: ні тое, што з ім прарабляюць у Саветах, ні тое, што мы наглядаем тут.

Горш стаяць справы з нашым нацыянальна-грамадзкім жыцьцём, якое разбурана амаль да асновы.

Яно разбуралася сыстэматычна і ўпарта і разбуралася пераважна беларускімі рукамі.

У гэтакай акцыі кіраўнічы ўдзел, бяссумліўна, бралі жыдоўска-камуністычныя мазгі, каторым залежала на стварэньні эканамічнай кабалы для нашага народу.

Проці Беларускага Народу, як і проці ўсякага іншага, што знаходзіцца ў аднолькавых з намі абставінах жыцьця, змабілізаваны яўныя і ўкрытыя сілы, пры гэтым апошнія для нас зьяўляюцца больш небясьпечнымі, чымся першыя.

Ці вытрымаем мы гэта ўсё? Ці хопіць у нас сілаў на змаганьне і, наагул, ці здольны мы да змаганьня, бяручы пад увагу гэтакія няспрыяючыя абставіны, у якіх апынуўся Беларускі Народ, калі ўсё ёсьць накіравана да нашага нацыянальнага зьнішчэньня?

Вось пытаньні, каторыя трывожаць кожнага беларуса, што любіць свой народ і ня здольны яго вырачыся нават у самыя цяжкія часіны.

Ня згінулі да гэтай пары, то й ня згінем наагул, калі змагаліся раней, то мусім змагацца цяпер і ў будучыні. Страціць здольнасьці да змаганьня мы таксама ня страцім, бо мы хочам жыць, а каб жыць трэба змагацца, змаганьнем мы зможам асягнуць штонебудзь лепшае ў жыцьці.

Многія гэта ўсё ўяўляюць сабе дакладна, а многія адчуваюць інстыктоўна, але ўсе дзе-

---

## Наш шлях—змаганьне.

Наш шлях—змаганьне,
Чын бяз хістаньня,
Бадзёрасьць з працай
І барацьбой.

З душою гордай
І з воляй цьвёрдай
Па ім ідзём мы
Ў вызвольны бой.

Чужынцаў хмары,
„Сваіх" удары
Наш шлях барозьняць
Із года ў год;

Маною вечнай
І недарэчнай
Стаўляюць многа
Нам перашкод.

Той шлях—за намі,
Што йшлі гадамі,
Абліты потам,
Крывёй, сьлязьмі,

А нараканьні
І плач, стагнаньні,
Журба і мляўкасьць
Ішлі з людзьмі.

З тае прычыны
Прадзедаў чыны
Праз плач і енкі
Губілі моц.

І стогн стагодзьдзяў
І сьлёз разводзьдзе
Не разагналі
Няволі ноч.

Ёсьць так з прадвеку,
Што чалавеку
Сьляза ня можа
Карыснай быць

Хаця бы з гора
Наплакаў мора —
Ня зможа волі
Сабе здабыць.

Бо гарт змаганьня,
Чын бяз хістаньня,
Бадзёрасьць з працай
І барацьбой;

І духа гордасьць,
І волі цьвёрдасьць
Вядуць няўхільна
Ў вызвольны бой.

Дык шляхам гэтым
Пайдзём да мэты:
Да вызваленьня
Праз волі гарт.

А на пагрозы...
Ня капнуць сьлёзы —
Дастане кожны,
Хто колькі варт.

Казлоўшчык.

юць у тым кірунку, які гістарычна і нацыянальна нам карысны і патрэбны.

Справа зводзіцца толькі да таго, каб нацыянальная і грамадзкая сьведамасьць народных масаў паглыблялася больш інтэнсыўна і каб, напасьледак, наступіла консолідацыя палітычнай думкі беларускага грамадзянства.

Народ, каторы патрапіў запоўніць тысячамі сваіх сыноў вастрогі за палітычную працу, здольнасьцяў да змаганьня страціць ня можа.

Праўда, дзякуючы інтрыгам нашых ворагаў, грамадзкая энэргія народу трацілася ня ў тым кірунку, які вымагаўся дабром нацыі, бо пераважна людзі мучаліся і мучацца з прычыны сваей палітычнай нясьведамасьці за чужую для сябе камуністычную ідэю.

Аднак, пры пэўных высілках скансалідаванага нашага грамадзянства ўсю гэтую энэргію далося-б накіраваць у карысным для беларусаў кірунку.

Мы верым, што тады беларуская справа хутка пасунулася-б наперад і многія з сучасных пэсымістаў зусім інакш заглядалі-б на тое, што яны бачаць у чорных хварбах. Народ Беларускі здольнасьцяў да змаганьня ня страціў, бо на кожным шагу ён змагаецца за свае правы і змагацца мусіць.

Гэтага вымагае само жыцьцё і само яно павялічвае і дасканаліць здольнасьці да змаганьня... С. Булат.

# Пра сялянскія справы.

З жахам прыходзіцца глядзець на бліжэйшую будучыню нашай вёскі. Ужо цяпер якое небудзь рацыянальнае гаспадараваньне там дзякуючы інтэнсыўнаму працэсу раздрабленьня гаспадарак і катастрафальнаму абніжэньню дабрабыту сялянскай масы, зусім немагчыма. У выніку гэтага ўсё вясковае насельніцтва, за малымі выняткамі хранічна галадае, траціць сілы і хварэе. Працэнт нездатнай да вайсковай службы моладзі з кожным годам павялічваецца.

Ня прыходзіцца ўжо й успамінаць пра той матэрыяльны стан, у якім знаходзяцца масы беззямельных і вясковых беспрацоўных, якіх у Польшчы налічваюць некалькі мільёнаў.

На пагаршэньне матэрыяльнага стану вёскі вялікі ўплыў мае не нагляданы дагэтуль упадак цэнаў на прадукты сельскай гаспадаркі, выкліканы махінацыямі гандлёвага капіталу, згуртаванага, як вядома, у жыдоўскіх руках.

Для прыкладу падамо наступныя параўнаўчыя дадзеныя.

Гэтак, у 1927 г. за адзін плуг плацілася грашмі столькі, за сколькі можна было прадаць 92 кілеграмаў жыта, у 1932 г. за той самы плуг ужо плацілася 207 кілегр. жыта, а ў гэтым годзе аж 311 кіл. За адну пару ботаў у 1927 г. плацілася 88 кілегр. жыта, у 1932 г.—96 кілегр.; у гэтым годзе — 222 кіл.

За 10 кілегр. солі плацілі у 1927 г. — 9 кілегр. жыта, у 1932 г. — 17 кіл. у гэтым годзе 40 кіл. за 10 кіл. мыла у 1927 г. — 60 кіл. жыта, у 1932 г. — 81 кіл., у гэтым годзе 144 кіл. і г. д.

Да крайняй й бязвыхаднай нэндзы, у якой апынулася вёска, трэба дадаць яшчэ сямейнае пекла, што вытвараецца ў кожнай сялянскай хаце дзякуючы матэрыяльнай незабясьпечанасьці.

Усё часьцей прыходзіцца чытаць у газэтах пра жудасныя крывавыя падзеі ў сялянскім асяродзьдзі, вынікаючыя паміж бліжэйшымі сваякамі.

Бацькі забіваюць сыноў, сыны бацькоў, браты і сёстры жывуць у стане бязупыннай вайны.

Усе суды завалены цывільнымі і крымінальнымі справамі сялян, якія знаходзяцца паміж сабою ў блізкай ступені сваяцтва.

Падобны хаотычны стан рэчаў пераварыўся ў нармальнае зьявішча і няма надзеі на тое, каб пры сучасных сацыяльна-палітычных умовах жыцьця ён палепшыўся. Пры буржуазна-капіталістычным ладзе нікому, за выняткам паліцыянта і сэквэстратара, няма ніякага дзела да таго, што творыцца на вёсцы.

Нават духавенста і тое, зачыніўшыся ў сваю скарупіну, агранічваецца толькі казаньнямі з амбоны, каторыя, як на нашы абставіны, маюць больш полёнізацыйныя ці русыфікацыйныя мэты, чымся маральна-ўзгадаваўчыя.

А народныя масы паступова дзічэюць і ўсё бліжэй падыходзяць да чыста зьвярынага існаваньня...

Ня могуць паправіць справы і тыя заклікі і прапаганда, якою заахвочваюць сялянства да рацыянальнага вядзеньня гаспадаркі, да маральнага ўдасканаленьня моладзі і да іншых прыгожых рэчаў.

Славамі гэтакай бядзе не паможаш. Тут патрэбны чыны і то такія, якія ў корані перабудавалі-б гаспадарскае жыцьцё вёскі і падънялі-б яе дабрабыт.

Толькі тады адчыніліся-б магчымасьці да падняцьця інтэлектуальнага і маральнага роўню яе жыхароў.

Як мы ўжо казалі ў адным з папярэдніх нумароў „Новага Шляху", уся вясковая гаспадарка вымагае каранной перабудовы, праведзенай на кооперутыўных асновах у дзяржаўным маштабе. Мы апынуліся запраўды перад гістарычнаю неабходнасьцю гэтакай гаспадарскай перабудовы, калі ня хочам мець на вёсках мільённыя масы адзічэўшых і з'анархізаваных істотаў, паступова набываючых выключна разбурваючыя інстынкты і ненавісьць да ўсякай культуры наагул.

Такая рэканструкцыя сельскай гаспадаркі вымагае шмат часу і грашовых сродкаў, але яна за ўсякую цану мусіць быць праведзена, калі наагул сучасная цывілізацыя ня будзе зьмецена з твару зямлі гістарычнымі падзеямі, што прыбліжаюцца.

Галоўнае заданьне будучай працоўнай рэспублікі, якая прыдзе на зьмену існуючага дзяржаўнага ладу, павінна апірацца на тым, каб скоопэраваўшы сялянскую гаспадарку — убуйніць паасобныя яе галіны і тым самым павысіць іхнюю прадукцыйнасьць.

Зразумела, што за адным „замахам“ гэтага ня дасцца зьдзейсьніць. Нам не патрэбен савецкі „соцыялізм“ з ягоным прымусам; нашым ідэалам зьяўляецца лад цывілізаваных коопэратараў, дабравольна ўвайшоўшых у гаспадарскія сябрыны ў мэтах паляпшэньня абставінаў свайго гаспадарскага і грамадзкага жыцьця.

Мы лічым, што нават пры адпаведных спрыяючых нам палітычных абставінах, шмат гадоў трэба папрацаваць, каб на вёсцы вытварыўся пажаданы для нас лад.

На вёску трэба ўлажыць, апрача ўсяго іншага, вялікія матэрыяльныя і грашовыя сродкі, чаго ня можа зрабіць сучасная буржуазна-капіталістычная дзяржава з яе вызыскам працоўных і капіталістычным спосабам вытворчасьці, дзе „ніхто ня ведае, калі канчаецца чэснае вядзеньне дзела, а калі пачынаецца машэніцтва“.

Буржуазныя клясы, кіруючыя сучаснымі дзяржавамі, ня маюць тых рэканструкцыйных мэтаў, якія вымагаюцца жыцьцём і якія патрэбны хацяб-бы для таго, каб ўратаваць насельніцтва ад анархіі і бязладу.

Толькі само сялянства, адпаведна арганізаванае, лепш ад усіх зможа правесьці рэформы ў сельскай гаспадарцы.

Ня зможа гэтага зьдзейсьніць ні гарадзкі пролетарыят з ягоным „авангардам“—камуністычнаю партыяю, ні прагніўшая буржуазія.

Гэта ўсё праробіць сялянства ў той час, як яно ў аграрных краінах будзе мець рашучы ўплыў на кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі, калі ня будзе ні дыктатуры пролетарыяту, ні таго „дэмакратычнага“ стану рэчаў, які наглядаецца цяпер.

Д. Пінчук.

# Вымоўныя цыфры.

Загранічная прэса падала вельмі цікавыя дадзеныя адносна колькасьці ахвяраў бальшавіцкага тэрору ў Саветах.

Паводлуг гэтых дадзеных у працягу 4 год (ад 1918 да 1922) згінула ў адных толькі „чрэзвычайках“:

6.000 прафэсароў і вучыцялёў,
8 800 лекараў,
54.000 афіцэраў,
200.000 жаўнераў,
105.000 б. паліцэйскіх,
48.000 жандармаў,
12 800 урадоўцаў,
333 000 інтэлігентаў розных фахаў.
192 000 рабочых
815 000 сялян,
1.500 ксяндзоў,
28 біскупаў,

Разам 1.782.128 чалавек.

Гэтыя цыфры ня толькі жудасныя і агідныя. Для нас яны павінны быць і навучальнымі, бо па іх мы можам зусім выразна ўявіць сабе ня толькі тое, чаго можа чакаць людзкасьць ад камуністычнай дыктатуры, але й якія ўкрытыя мэты мае тая ўлада, каторую літэральна можна было-б утапіць у пралітай ею крыві.

Так нішчыць людзей, як нішчаць іх савецкія камуністы, немагчыма, а тым балей у імя „ўсеагульнага дабра і сацыяльнай справядлівасьці“. Немагчыма проста дзеля таго, што гэтакі крывавы сродак не надаецца пры ўстанаўленьні сацыялістычнага ладу, калі разумець яго як лад нейкіх цывілізаваных людзей. Мы лічым, што мэтаю такога тэрору, які тасуецца ў Саветах, ня ёсьць тое, аб чым кажуць нам камуністы.

Тут, як відаць з усяго, разыходзіцца ня толькі пра зьніштажэньне контр-рэвалюцыі, сабатажу і іншых „праступкаў“.

Усякія праявы незадаваленьня згары накіненым камуністычным рэжымам савецкія камуністы маглі-б здушыць зусім у іншы спосаб, не вымагаючы столькі крывавых ахвяраў.

Напасьледак, вядома ўсім, што нішчэньне пэўных катэгорыяў людзей праводзіцца там бяз усякай віны з іхняга боку, а проста „ў парадку чырвонага тэрору“.

У чым-жа тут справа і дзе шукаць галоўнай прычыны таго жудаснага зьявішча, сьведкаю каторага ёсьць увесь г. зв. культурны сьвет?

Паводле нашага глыбокага пераканаўньня там ішла і ня спынілася да сёньняшняга дня стаўка на зьнішчэньне тых элемэнтаў, каторыя стаяць некаму на перашкодзе.

Усе гэтыя нялюдзкія, дзікія, праступныя і на першы пагляд незразумелыя казьні патрэбны для тых, хто хоча пературарыць б. Расею ў сваю калёнію.

Бязлітаснасьць, з якою творацца крывавыя расправы з беларускім, украінскім, расейскім і іншымі народамі, колёсальнасьць ахвяраў і іншыя акалічнасьці сьведчаць пра тое, што ў гэтакім зьніштажэньні галоўную ролю адыгрываюць не палітычныя і клясавыя меркаваньні, а запраўды расавыя інстынкты.

Калі мы возьмем пад увагу, што галоўнымі інспіратарамі і кіраўнікамі гэтай крывавай вакханаліі ёсьць жыды, то мімаволі прыходзіцца прыйсьці да пераканаўньня, што гэтыя апошнія пры дапамозе савецкіх „чрэзвычаяк“ зьдзейсьніваюць свае чыста жыдоўскія нацыянальныя пляны. А што жыды адыгрываюць у савецкіх „чрэзвычайках“ пануючую ролю—няма ніякага сумліву. Гэтак, напрыклад, у 1921—1922 г. у Кіеўскай Ч. К. старшынёю быў сын багатага жыдоўскага фабрыканта Ліпшыц, а на становішчы сьледавацеляў, сяброў калегіі, старажоў і нават катаў былі выключна жыды.

Гэта ёсьць фактам, каторы можа сьцьвердзіць кожны, хто ў гэты час сядзеў у лёхах Кіеўскай Ч. К.

Дый ня толькі ў Кіеве, але па ўсей Са-

вецкай Украіне чэкістамі былі адны толькі жыды. Ці ж гэтакае зьявішча выпадковае?

Трэба быць зусім сьляпым, каб ня бачыць тут рэалізацыі добра прадуманага пляну, уложанага ў нейкім заканспіраваным ад нас жыдоўскім асяродзьдзі.

Сучасны стан рэчаў у „сацыялістычнай бацькаўшчыне“ нісколькі ня лепшы, доказам чаго зьяўляецца новы зьверскі тэрор пасьля забойства Кірова і тая акалічнасьць, што на становішчы начальніка ўсерасейскай Ч. К. ёсьць таксама жыд пад псэўданімам Ягода.

Не памылімся, калі скажам, што камуністычны тэрор у Саветах мае на мэце не сацыялістычныя ідэалы, а тасуецца там, з аднаго боку як сродак помсты, а з другога, і гэта найгалаўнейшае, праводзіцца ў мэтах замацаваньня ўлады жыдоў над усімі іншымі паняволенымі народамі.

Там зьніштажаецца і фактычна ўжо зьгінула ўсё, што магло стаяць на перашкодзе даператварэньня расейскіх абшараў у калёнію жыдоўскага народу.

Гэты апошні, ня маючы ўласнай тэрыторыі, пры дапамозе сваіх багацьцяў і асьвечаных клясаў выразна імкнецца запанаваць ня толькі над б. Расеяю, але над усім сьветам. Акцыя Камінтэрну, які кіруецца заканспіраваным жыдоўскім цэнтрам, яшчэ не закончана.

А калі недалёкабачныя народы Эўропы, дапусьцяць да зрэалізаваньня ягоных плянаў, мы будзем сьведкамі сусьветнага жыдоўскага панаваньня, пад час каторага нават само слова сацыялізм, або камунізм будзе выкінены з ужыцьця як непатрэбнае. Пакуль-што савецкія жыды трымаюцца ў некаторых выпадках даволі асьцярожна: гэтак, напрыклад, каб ня кідалася ў вочы іхняе засільле на кіруючых становішчах, яны паначаплялі сабе хрысьціянскія імёны і прозьвішчы.

З часінаю распаўсюджаньня ўлады Камінтэрну на іншыя краіны гэтакая канспірацыя будзе зусім непатрэбнаю.

Тады не акажацца мейсца на сьвеце ня толькі тым, хто актыўна выступаў проці іх, але і ўсім, хто дзякуючы сваяму праступнаму нядбальству, або палітычнай недалёкабачнасьці прычыняўся да ўзмацненьня камуністычных уплываў, а тым самым працерабляў дарогу да жыдоўскага панаваньня С. Б.

## Оптымізм як жыцьцевая сіла.

Пэсымізм — найгоршы тормаз для дзеяньня; для грамадзкай працы — балючая маральная хвароба. Пэсымісты ня толькі абрыдае жыцьцё самому сабе, але ёсьць як-бы сказаць, сабатажнікам духовых парываў людзей таго асяродзьдзя, у якім ён знаходзіцца.

Паміж беларускім старэйшым грамадзянствам а нават і паміж студэнскай моладзі здараюцца непапраўныя пэсымісты-мальконтэнты ці „нытики“, як іх добра называлі маскалі.

Такі чалавек ніколі нічым не захопіцца, ніколі нічога не пахваліць, усё крытыкуе, а не дае свайго. Не запішацца ён да ніякай арганізацыі, ані палітычнай, ані гаспадарскай ці культурнай.

Там яму хадэкі, там санатары, там фашысты, там ізноў камуністы — усюды ён відзіць самае дрэннае, самую „гніль“, забываючыся, што гэтая гніль знаходзіцца ў ім самым і ёсьць шкоднай яму і асяродзьдзю, у якім ён абіваецца.

Проста жаласьць бярэ слухаючы маладую студэнтку ці студэнта, наракаючых на ўсіх і на усё, знеахвочаных да жыцьця. „Пашто жыць? Няма сэнсу. Хацелася-б умерці“—кажа такі нешчасьлівы хадзячы „нытик“.

Даў-бы, здаецца, такому грамадзяніну, кіруючыся міласьцяй бліжняга, вяроўку ці камень да шыі, каб памагчы яму задаволіць ягоную „ахвоту“ умерці і асвабадзіць ягонае нешчасьлівае цела ад варожага гэтаму целу ягонага духа.

Мальконтэнт абрыдае жыцьцё сабе і другім, а ў грамадзкай працы ён ня толькі што не карысны, але проста шкодны. Тады як здаровы оптымізм, ёсьць жыцьцятворчым дзейнікам і асалодай жыцьця.

Д-р Фр. Шрэдэр так кажа аб оптымізме: „Хто пасьля буры перажыў духовае адраджэньне, хто радасным сэрцам прыняў вечна творчы сьвет з яго бязмежным багацьцем хвормаў і коляраў, постацяў і сілаў, хто навучыўся ім цешыцца і ў ім дзеяць, падзіўляць нашую напоўненую гэраізмам сучаснасьць і людзкі чын — ці не навернецца той да эванэліі радасна-творчай волі і няўсыпаючай энэргіі? Да эванэліі вечна рухлівага, нясупыннага оптымізму?..

Чалавек, што не пераняты ўвесь здаровым оптымізмам—страчаны.

Камандзір, што хістаецца, нерашучы, пазбаўлены веры ў самога сябе — прывядзе толькі да заламаньня і няшчасьця. Кожная грамада, кожная супалка, што прыйшла-б на сьвет з бесканечным „калі б“ і „але“, бяз сілатворчага, парываючага намечаньня мэты—ёсьць мёртва пароджанае дзіця.

Народ, што пакідае сваю справу, ня маючы гарачай веры ў сваю місію ў сябе дома і ў шырокім сьвеце — ужо адыходзіць у мінулае...

Напоўніць кожнага з нас оптымістычным пачуцьцём абавязку, які нават катастрофу аберне ў багаслаўленьне, а нікому ўжо ня будзе страшна за нашую будучыню“. (Весті, № 42. 1934 г.).

Праўдзівыя і прыгожыя думкі. Толькі здаровы оптымізм, вера ў лепшую будучыню дасьць нам беларусам духовую і фізычную сілу ў змаганьні за вызваленьне нашага працоўнага Беларускага Народу. Ул.

**Ня плач, не наракай, а бяры свой лёс у сваю мазолістую далоню і змагайся.**

## Рупмася пра чысьціню беларускай мовы.

Калі чалавеку прыходзіцца ісьці ў часе вялікай буры, то сколькі патрэба сілы і ўвагі, каб ня ўпасьць. У падобным палажэньні знаходзіцца і наша старонка Беларусь. З Усходу і Захаду дзьмухаюць ветры, ветры сільныя і злосныя. Яны хочуць зьмясьці імя Беларусі. Гэтымі ветрамі ёсьць чужацкія ўплывы, якія ідуць звонку і з кожным годам павялічваюцца. Імпат свой яны скіроўваюць на нашую мову, каб нам яе адабраць, пазбавіць нас гэтага найдаражэйшага скарбу.

Калі народ страціць мову—гэтым самым пераважна траціць і сваё нацыянальнае жыцьцё.

Дзеля гэтага мы, верныя сыны нашай Бацькаўшчыны, павінны зварочваць вялікую ўвагу на нашую мову і чысьціню яе. Мы павінны гаварыць усюды пабеларуску, дзе нас разумеюць і гаварыць чыстаю моваю, бо ня толькі небясьпека для чысьціні нашай мовы ідзе звонку—яна ідзе і ад нас самых, ад тых нават, якія ёсьць павадырамі народу і яго абаронцамі—ад беларускай інтэлігенцыі, кіруючай друкаваным словам.

Людзі маюць пашану і давер да друкаванага слова, а тым больш калі яно ёсьць сваё роднае. А друкаванае нашае слова, што дачысьціні мовы, ёсьць не ўпарадку. Гэта выявілася на зборцы прыяцеляў беларусаведы пры У.С.Б. дня 25.XI. 1934 г., дзе адбываўся рэфэрат „Мова беларускай прэсы ў Вільні“. З гэтага рэфэрату было відаць, што ўсе беларускія газэты ў Вільні маюць заганы датычна чысьціні мовы.

Гэта змусіла мяне забраць голас, каб зьвярнуць увагу грамадзянству на небясьпеку для нашай мовы.

Што рабіць каб гэтай небясьпекі ня было?

Я прапаную пры якой-небудзь беларускай установе, напрыклад Бел. Інст. Гасп. і Культуры, заснаваць камісію, каторая рупілася-б пра чысьціню беларускай мовы ў прэсе.

Да камісіі трэба было-бы каб належалі навукоўцы — лінгвісты, паэты, пісьменьнікі і рэдактары. Якіх трэба так дабраць, каб яны былі прадстаўнікамі ўсіх куткоў Беларусі.

Камісія разглядала-б выходзячыя кнігі і газэты, абгаварвала-б знайшоўшыя там нязгодныя з духам беларускай мовы словы і вынікі працы сваей падавала б да ведама ў адумысловым часапісе ці ўва ўсіх газэтах, рэдактары каторых зьвўляліся-б сябрамі камісіі. Гэткім спосабам пастановы камісіі даходзілі-б да агульнага ведама і абавязвалі-б усіх беларусаў.

Я прашу ўсіх тых, якім ляжыць на сэрцы чысьціня беларускай мовы, забраць голас у гэтай справе. С. К.

**Ад Рэдакцыі:** мы прылучаемся да заклíку паважанага аўтара, аднак не згаджаемся з ягоным пэсымізмам датычна „небясьпекі для нашай мовы“.

*Толькі нацыянальны сацыялізм падніме беларусаў да належнай вышыні і годнасьці.*

## Да чытачоў.

Дзякуючы ахвярнасьці людзей, згуртаваных каля „Новага Шляху“, мы змаглі выдаць 10 нумароў гэтага часапісу. З мэтай далейшага рэгулярнейшага выдаваньня, зьвяртаемся да Вас, Чытачы!

Ня просім у Вас ласкі ці ахвярнасьці, мы прыпамінаем толькі Вам ваш суменны абавязак заплаціць нам належны доўг за атрыманыя нумары „Новага Шляху“.

Калі цяжка аднаму—злажыцеся некалькі. Калі немагчыма і гэтак—паведамляйце аб гэтым паштоўкай, просячы не перарываць высылкі газэты.

Шмат хто з Вас гаворыць пра ахвярнасьць, пра змаганьне за лепшую будучыню і г. д. А якой ахвярнасьці можна спадзявацца ад грамадзяніна, каторы ня здольны нават здабыцца на якую-небудзь залатоўку ці 50 гр. каб аплаціць сваю газэту і гэтым самым памагчы пашырацца ейнай ідэолёгіі, галасіўшай змаганьне за лепшую будучыню.

Калі ён ня можа здабыцца на гэткую „ахвярнасьць“, дык чаго-ж ад яго можна спадзявацца?

Беларускі чытач, ня сьпі!

Ты мусіш змагацца за лепшую будучыню сабе і сваім дзецям.

Выяўляй ахвоту да змаганьня! Першай праявай тваей ахвоты да гэтага, будзе падтрыманьне змаганскага часапісу „Новы Шлях“

Ня будзь бязжыцьцёвай глухой сьцяною, ад якой словы гарохам адбіваюцца. Неадкладна прысылай падпіску. Бяднейшыя ў складчыну; ба ацейшыя паасобку, а каму ня цяжка — прысылайце ахвяры на выдавецкі фонд „Новага Шлялу“.

Каб было таней—высылайце „przekazem rozrachunkowym“ які можна купіць за 1 грош на кожнай пошце.

Памятайце, што ўсім, хто не аплаціць даўгу, перарываем высылку далейшых нумароў. Выдавецтва „Новага Шляху“.

*Хто чытае „Новы Шлях“ не аплаціўшы падпіскі, той выкарыстоўвае чужую працу і выяўляе сваю грамадзкую нявырабленасьць.*

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія
Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.